ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год. XXIX, № 273 New York, January — Студзень— 1980 Vol. XXIX, № 273

# „БРАТНЯЯ ДАПАМОГА" ЦІ КАЛЯНІЯЛЬНАЯ ЭКСПЛЯАТАЦЫЯ?

Калі ў савецкай рэспубліканскай ці цэнтральнай прэсе закранаецца тэма савецкай эканомікі, дык апошнімі гадамі заўсёды паўтараецца абавязкавая ў такіх выпадках афіцыйнага догма, што эканоміка СССР становіць сабой адзіны народнагаспадарскі камплекс, што гэтая „адзінасьць" ідзе на карысьць як СССР у цэлым, гэтак і паасобных савецкіх рэспублікаў. Пры гэтым, аднак, агульнадзяржаўныя інтарэсы СССР ставяцца на першым месцы, каб гэткім чынам падчыркнуць падпарадкаванасьць эканамічных інтарэсаў рэспублікаў інтарэсам агульнадзяржаўным, гэта значыць, імпэрыяльным. У той-жа час высоўваецца цьверджаньне пра раўнапраўнасьць рэспублікаў у пытаньнях эканомікі, выхваляецца супрацоўніцтва й узаемная дапамога паміж імі.

Калі справа йдзе пра Беларусь, дык ува ўсіх прапагандава-агітацыйных артыкулах савецкай прэсы абавязкава гаворыцца пра тое, што ўсё дасягнутае ў Беларусі ў галіне народнае гаспадаркі, навукі, культуры й гэтак далей было вынікам „мудрай нацыянальнай палітыкі" ЦК КПСС і ўраду СССР, бескарысьлівай „братняй дапамогі" народаў іншых савецкіх рэспублікаў і, зразумела, у першую чаргу „вялікага рускага народу".

Бясспрэчна, што за пасьляваенныя гады беларускі народ уклаў вялізарныя высілкі для адбудовы й разьвіцьця гаспадаркі Беларусі. Прамысловасьць Беларусі расла параўнальна высокімі тэмпамі, хуткім быў таксама рост нацыянальнага даходу рэспублікі, хоць ён і не дасягаў тэмпаў росту прамысловасьці, бо ўвесь час падводзілі непрадукцыйная скалектывізаваная сельская гаспадарка, будаўніцтва, транспарт. Апошнімі гадамі, праўда, тэмпы росту як у СССР, гэтак і ў БССР значна запавольніліся. Але паводля прамысловай вытворчасьці й нацыянальнага даходу на душу насельніцтва Беларусь, як паказвае савецкая статыстыка, перавысіла ўжо сярэднясаюзны ўзровень.

Нацыянальны даход — магчыма найлепшы эканамічны паказьнік, пры дапамозе якога можна паспрабаваць разблытаць загадку гэтак званай „братняй дапамогі" для Беларусі. Апрача таго, ён галоўная крыніца прыбыткаў насельніцтва й таму ў вялікай меры абумоўлівае жыцьцёвы ўзровень жыхарства. Таму на нацыянальным даходзе варта спыніцца больш уважна.

Спачатку адзначым, што вылічэньне нацыянальнага даходу ў СССР адрозьніваецца ад вылічэньня яго ў заходніх краінах. Паводля савецкай дэфініцыі, нацыянальны даход — гэта частка сукупнага нацыянальнага прадукту, якая застаецца пасьля выліку выдаткаў на спажытыя сродкі вытворчасьці. У яго ўваходзяць толькі вынікі працы работнікаў сфэры **матарыяльнай** вытворчасьці: у прамысловасьці, сельскай і лясной гаспадарцы, будаўніцтве, на грузавым транспарце, у сувязі (тэй частцы, што абслугоўвае вытворчасьць), гандлі (там, дзе працягваецца працэс вытворчасьці), сфэры матарыяльна-тэхнічнага забясьпечаньня й г. д. Але, напрыклад, праца пасажырскага транспарту або ганарар пісьменьніку за напісаны ім мастацкі твор ня ўлічваюцца ў нацыянальны даход, бо яны не ўваходзяць у сфэру матарыяльнай вытворчасьці.

Не зважаючы на гэта, нацыянальны даход, як ён вылічаецца ў СССР, у дастатковай ступені адлюстроўвае ў грашовым выражэньні вынікі гаспадарскай дзейнасьці пэўнага рэгіёну (у дадзеным выпадку — савецкай рэспублікі), каб на ягонай аснове можна было рабіць пэўныя высновы, параўнаньні.

Нас тут цікавяць у першую чаргу памеры здабыванага ў Беларусі нацыянальнага даходу й ягонае выкарыстаньне: у якой ступені вынікі гаспадарскай дзейнасьці рэспублікі выкарыстоўваюцца для собскіх патрэбаў ,ідуць на карысьць ейнага жыхарства? На колькі адпавядаюць праўдзе бязупынныя заявы савецкіх органаў прапаганды пра „братнюю дапамогу" Беларусі з боку Саюзу ССР?

Разабрацца ў гэтым дапамагае тая акалічнасьць, што, апрача чыста прапагандавых заяваў, у рэспубліканскі друк часам трапляюць і некаторыя дадзеныя на гэтую тэму. Працытуем некаторыя такія больш канкрэтныя выказваньні ў гэтым пытаньні афіцыйных прадстаўнікоў Савецкай Беларусі.

У сваім дакладзе на сьвяткаваньні 60-цігодзьдзя БССР і КПБ першы сакратар ЦК КП Беларусі Машэраў вельмі агульна адзначыў „узрастаючы ўклад рэспублікі ў вырашэньне агульнасаюзных заданьняў". Крыху дакладней гаворыцца пра гэта ў артыкуле Марцінкевіча, зьмешчаным у 6-ым нумары „Весьцяў Акадэміі навук БССР" за 1979 год. У гэным артыкуле чытаем: „Калі ў першыя пасьляваенныя пяцігодкі спажыты нацыянальны даход быў вышэйшы выробленага, то **на сучасным этапе Беларусь стварае больш, чымся спажывае** (падкрэсьленьне наша — А. З.), і ўносіць значны ўклад у разьвіцьцё прадукцыйных сілаў нанава асвойваных раёнаў краіны". Падобна сказана і ў артыкуле старшыні Дзяржпляну БССР Гвозьдзева, зьмешчаным у першым нумары часапісу „Полымя" за 1979 год: „. . . пачынаючы з восьмай пяцігодкі (Беларусь) дабілася пастаяннага перавышэньня аб'ёмаў здабытага нацыянальнага даходу над выкарыстаным, і гэта сьведчыць пра ўклад працоўных Савецкай Беларусі ў агульнасаюзныя дасягненьні".

Канкрэтныя лічбовыя дадзеныя пра здабываны й выкарыстоўваны ў рэспубліцы нацыянальны даход у савецкай прэсе звычайна не публікаваліся. Але прыгаданы ўжо старшыня Дзяржпляну БССР Гвозьдзеў у наступным сваім артыкуле, зьмешчаным у чацьвертым нумары часапісу „Коммуніст Белоруссіі" (за 1979 год) ці не ўпяршыню падаў у гэтай справе канкрэтную лічбу. Ён пісаў, што толькі за тры гады гэтай пяцігодкі (1976-1978 гадоў улучна) „сума здабытага нацыянальнага даходу перавысіла выкарыстаны ў рэспубліцы на 5 міліярдаў рублёў, што адлюстроўвае па сутнасьці памеры нашага ўкладу ў агульнасаюзныя вынікі працы".

Гэтае сьцьверджаньне старшыні Дзяржпляну БССР можна разумець толькі так, што за тры першыя гады цяперашняй пяцігодкі 5 міліярдаў рублёў здабытага ў Беларусі нацыянальнага даходу было выкарыстана за межамі БССР — у якасьці „ўкладу рэспублікі ў вырашэньне агульнасаюзных заданьняў", у „разьвіцьцё прадукцыйных сілаў нанава асвойваных раёнаў краіны", гэта значыць — нябеларускіх раёнаў. Для Беларусі 5 міліярдаў рублёў за тры гады — гэта вялікая сума, якая раўняецца, напрыклад, амаль дакладна суме ўсяго Дзяржаўнага бюджэту БССР на леташні год. А здабываны ў Беларусі нацыянальны даход перавышае выкарыстаны ўжо каля 15-ці гадоў.

Як мы ўжо адзначылі, канкрэтныя лічбы пра нацыянальны даход паасобных савецкіх рэспублікаў у савецкай статыстыцы не падаюцца. У статыстычных гадавіках „Народное хозяйство СССР", напрыклад, у 1978 годзе здабыты нацыянальны даход БССР склаў ад 17-ці да 17-ці з палавінай міліярдаў рублёў. Калі за першыя тры гады гэтай пяцігодкі здабыты нацыянальны даход БССР перавысіў выкарыстаны ў рэспубліцы нацыянальны даход на 5 міліярдаў рублёў, дык гэта азначае, што ў кажным з гэтых трох гадоў нейкіх 9,5 — 10 працэнтаў нацыянальнага даходу БССР маскоўскія ўлады забіралі ў Беларусі й выкарыстоўвалі або для гаспадарскіх патрэбаў іншых рэспублікаў, або для нейкіх іншых мэтаў.

Гэта сьведчыць пра тое, што прынамся на працягу апошніх 15-ці гадоў ня было ніякіх падставаў для цьверджаньняў, што Беларусь атрымлівае дапамогу з боку Саюзу ССР. Зацытаваныя выказваньні афіцыйных прадстаўнікоў БССР сьведчаць пра адваротнае — пра тое, што пасьля пэрыяду адбудовы разбуранай вайной гаспадаркі, Беларусь узноў сталася аб'ектам сыстэматычнай эксплятацыі з боку маскоўскага імпэрыяльнага цэнтру.

Маючы на ўвазе, што ўзровень нацыянальнага даходу Беларусі на душу насельніцтва перавышае цяпер усесаюзны і што Беларусь толькі за тры гады гэтай пяцігодкі дала 5 міліярдаў рублёў для разьвіцьця іншых раёнаў СССР, трэба таксама паставіць пытаньне, ці адбіваецца адпаведным чынам такі рост нацыянальнага даходу на ўзроўні жыцьця беларускага насельніцтва?

Адным з важных паказьнікаў узроўню жыцьця зьяўляецца, напрыклад, заработная плата працоўных. Найбольшую частку працоўных у БССР і СССР складаюць цяпер работнікі й службоўцы. І вось у паведамленьні Цэнтральнага Статыстычнага Ўпраўленьня БССР і СССР за 1978 год што да аплаты працы работнікаў і службоўцаў знаходзім такія дадзеныя. У 1978 годзе сярэднямесычная заработная плата работнікаў і службоўцаў складала па СССР 16 рублёў, а ў Беларусі — 14 рублёў. Прычым у сярэднім па СССР зарплата за 1978 год павялічылася на 5 рублёў, а ў Беларусі — на 3,5 рублёў. З гэтага відаць, што заработная плата работнікаў і службоўцаў у Беларусі не апраўдана заніжаная, і павялічылася яна ў 1978 годзе менш, чымся ў сярэднім па СССР, хоць прырост нацыянальнага даходу ў Беларусі быў вышэйшы й склаў 6,5 працэнта, а па СССР — толькі 4 працэнты. Дарэчы, узровень аплаты працы ня толькі работнікаў і службоўцаў, але й калгасьнікаў быў у Беларусі шмат ніжэйшы ад усесаюзнага ўзроўню на працягу ўсяго пасьляваеннага часу.

Таму, можна бязь перабольшаньня сказаць, што й у першы пасьляваенны пэрыяд адбудова разбуранай вайной гаспадаркі рэспублікі фінансавалася ў вялікай меры за кошт нізкай аплаты працы насельніцтва Беларусі, за кошт штучнага зьніжэньня ягонага жыцьцёвага ўзроўню, хоць, як усім ведама, беларускі народ ня нёс ніякай адказнасьці ні за ўзьнікненьне вайны, ні за вялізарныя матарыяльныя страты, спрычыненыя Беларусі гэтай вайной. Адказныя за гэта сядзелі ў Маскве й Бэрліне.

Ніжэйшая ў параўнаньні зь іншымі раёнамі СССР аплата працы ў Беларусі спрычынілася таксама да павялічэньня стратаў карэннага насельніцтва рэспублікі. Апрача стратаў насельніцтва ў выніку арыштаў і дэпартацыяў, у пасьляваенны час шмат Беларусаў выяжджала за межы рэспублікі ў пошуках лепшых заработкаў. Савецкія крыніцы не хаваюць, што ў пасьляваенны час найбольш інтэнсыўная міграцыя насельніцтва праз межы рэспублікі адбывалася якраз у Беларусі. Партыйнае кіраўніцтва сьведама стымулявала гэты працэс дзеля перамешваньня насельніцтва з мэтай русыфікацыі нерасейскіх народаў.

**А. Залескі**

# У ВАБАРОНУ МІХАЛА КУКАБАКІ

**HELP FREE** **PLEASE MENTION HIS NAME!**

**Michal Kukabaka** (b. 1936), a laborer. Spent six years in psychiatric prisons (1969-76) for refusing to participate in Soviet elections, acquainting his co-workers with the Universal Declaration of Human Rights, and for writing open letters. Sentenced again in 1979 to three years of prison for his essays, "Human Rights and Detente are Indivisible," "The Stolen Fatherland," and others. Renounced Soviet citizenship and wants to emigrate to any free country. His parents died in WW II and he has no relatives whatsoever.

**MICHAL KUKABAKA**
Byelorussian political
prisoner in the Soviet Union

**His address (in prison): 211440, Vitebskaya oblast, g. Novopolotsk — 35, Uchrezhdeniye UZh (15/10 — "D", USSR.**

**Send this card** to your government, a newspaper, Soviet ambassador, the United Nations, governments of the Byelorussian SSR and the USSR, and anyone who can help. Michal Kukabaka's life is at stake!

**To continue this action** we need your donation: **Committee for Defense of Prisoners of Conscience in Byelorussia** (use abbreviation: Committee for DPCB), 187-06 Hillside Ave., Jamaica, N. Y. 11432, U.S.A.

Газэта „Беларус", да якое зьвярнуўся ў вадкрытым лісьце Віктар Някіпелаў (гл. „Беларус" № 71-72) з просьбай „падтрымаць Міхала Кукабаку сваёй увагай, лістамі да яго з-за мяжы", выдала паштоўку, прысьвечаную М. Кукабаку. Мэта паштоўкі — спрыяць вызваленьню М. Кукабакі з турмы ды ягонаму выезду з Савецкага Саюзу, дзе яго перасьледуюць за палітычныя й рэлігійныя перакананьні. Дзеля гэтага вельмі важна пашыраць у заходнім грамадзтве ймя М. Кукабакі, інфармаваць пра зьдзек над ім, пра патаптаньне ягоных прыродных людзкіх правоў.

Паштоўкі гэтыя трэба пасылаць перш-наперш да афіцыйных асобаў кажнага ўраду на сьвеце, улучна з урадамі БССР і СССР, а таксама ў газэты, міжнародныя арганізацыі, урадавыя ўстановы (асабліва тыя, што маюць міжнародныя сувязі або сувязі з Савецкім Саюзам), дыпляматычныя місіі й прадстаўніцтвы. Зразумела, можна паштоўкамі карыстацца і ў прыватным ліставаньні — паслаць, скажам, прывітаньне каму-небудзь (у дарозе паштоўка будзе рабіць таксама інфармацыйную работу).

Пісаць на паштоўцы шмат ня трэба (ды на ёй шмат і не напішаш.) Важна ня гэтулькі тое, што Вы напішаце, колькі сам факт пасланьня паштоўкі, факт **Вашага** звароту з просьбай аб дапамозе. Хопіць нат напісаць адзін сказ: „Памажэце М. Кукабаку выехаць з Савецкага Саюзу" (ці нешта ў гэтым духу). Калі хто-небудзь з адрысатаў захоча больш інфармацыі пра М. Кукабаку, ён будзе ведаць, куды зварачацца: на паштоўцы пададзеныя два адрасы — Камітэту Дапамогі Вязьням Сумленьня на Беларусі й газэты „Беларус" (на адвароце паштоўкі).

Цана паштоўкі — 25 цэнтаў. Прыбытак зь ейнага продажу (як і ахвяры, на якія Камітэт Дапамогі чакае ад Вас) пойдзе на справу дапамогі вязьням сумленьня на Беларусі.

# ЛІСТ СЭНАТАРА ДОЎЛА ДА КУКАБАКІ

Сэнатар Боб Доўл напісаў 13 сьнежня 1979 г. ліст да беларускага іншадумца Міхала Кукабакі ў навапалацкую турму (з копіяй савецкаму паслу ў Вашынгтоне А. Дабрыніну). Ліст сэн. Доўла напісаны ў вадказ на адкрыты ліст да яго ад Віктара Някіпелава, расейскага паэты й іншадумца, у міжчасе таксама арыштаванага савецкай уладай. Віктар Някіпелаў — блізкі прыяцель М. Кукабакі ды мае ад яго афіцыйнае ўпаўнаважаньне выступаць у ягоную абарону.

Ніжэй падаём тэкст ліста сэнатара Доўла да Кукабакі ў перакладзе з ангельскае мовы:

„Паважаны Містэр Кукабака:

Я толькі што дастаў ліста, напісанага ад Вашага ймя Містэрам Віктарам Някіпелавам, які, як я разумею, знаходзіцца цяпер таксама пад арыштам.

Суд над Вамі ў чырвені сёлета выклікаў вялікае зьдзіваваньне сярод нас, што займаюцца справай змаганьня за правы чалавека па цэлым сьвеце. Адвага, якую Вы выявілі праз гады зьняволеньня, трымаючыся сваіх паглядаў і перакананьняў, выклікала захапленьне сярод нас, што ўважаюць свабоды, у якіх адмоўлена Вам, за натуральныя правы чалавека.

Я разумею, што Вы церпіце ад благога здароўя і, перадаючы Вам пра сваю асабістую ўстурбаванасьць гэтым, я хачу выказаць Вам запэўненьні, што пляную весьці далей мае намаганьні ў кірунку Вашага звальненьня й свабоды, як гэта робяць і шмат Вашых прыяцеляў на Захадзе.

Шчыра Ваш — Боб Доўл, сэнатар Задзіночаных Штатаў".

## КАЛЯДНЯЕ Й НАВАГОДНЯЕ ПРЫВІТАНЬНЕ З ВАЦЬКАЎШЧЫНЫ

*Верным сэрцам, хоць болем параненым,*
*Ад зямелькі радзімай, ад хат,*
*Я вітаю Вас, Брацця каханыя,*
*З Новым Годам, із Сьвятам Каляд!*

*Хоць дарогі занесла сьнягамі*
*І прастор разьдзяліў нас круты,*
*Ў гэты вечар мы думкамі з Вамі,*
*Дарагія Сястрычкі й Браты.*

*Пажаданьні і шчырасьць прымеце,*
*Каб здаровымі доўга жылі,*
*Няхай добра Вам будзе на сьвеце,*
*Як на бацькавай, роднай зямлі!*

*Галаву нахіляючы нізка,*
*Прад маленькім абліччам Сьвятым,*
*З тэй зямлі, што была Вам калыскай,*
*Я Вам шчасьця жадаю, Браты!*

*З Новым Годам, Калядными Сьвятамі,*
*Ад яліначкі з нашых лясоў,*
*Ад сьвяточнай Куцьці, ад пакінутай хаты,*
*Ад заплаканых Матак і сівых Бацькоў.*

*Брацця нашы з далёкіх краінаў,*
*За сталом нашым месца для Вас,*
*Усё чакае на вернага Сына,*
*Што вярнецца дамоў ў добры час!*

*А пакуль, хай бясхмарнаю будзе Вам доля,*
*І харошыя людзі заменяць братоў,*
*Частка нашай душы, каласкі нашы з поля,*
*Ў час Вячэры Сьвятой шлем Вам нашу любоў!*

**Ад Рэдакцыі:** Верш „Каляднае й Навагоднае прывітаньне з Бацькаўшчыны" суродзічам у Вольным Сьвеце мы атрымалі спозьнена, таму друкуем яго толькі ў гэтым нумары „Беларуса". Із зразумелых прычынаў імя й прозьвішча аўтара верша не падаецца.

# ПАМЁР ІВАН РАЛЬКО

29 сьнежня 1979 г. пасьля цяжкай хваробы на 51-ым годзе жыцьця памёр навуковы супрацоўнік Інстытуту Літаратуры ймя Янкі Купалы Акадэміі Навукаў БССР, кандыдат філялягічных навукаў, сябра Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Іван Ралько.

Нарадзіўся Ралько 21 лістапада 1929 г. у вёсьцы Макраны Капыльскага раёну Менскай вобласьці.

У 1961 г. скончыў асьпірантуру, і з гэтага часу да апошніх дзён жыцьця Іван Ралько працаваў у Інстытуце Літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навукаў БССР.

## ПРЫВІТАНЬНЕ АРХІМАНДРЫТА ЯЗЭПА

З Раством Хрыстовым і Новым 1980 Годам вітаю Вас, Дарагі Рэдактар „Беларуса", Вашую Сямейку й усіх Суродзічаў нашых із шчырым пажаданьнем супольна ўсім Беларусам усіх веравызнаньняў у добрым здароўі й радасьці спаткаць і правесьці сьвяточныя дзянёчкі Раства Хрыстовага.

Хай сьвятло зорачкі Бэтлеемскае загляне да Вас і асьвеціць душу кажнага й узрадуе сэрца Вашае, каб усе мы дачакаліся таго часу, калі шматпакутная Бацькаўшчына нашая атрымае запраўдную волю, дабрабыт і жыцьцё шчасьлівае!

**Архімандрыт Язэп**

**Чыкага, 12 сьнежня 1979**

## НА 70-ГОДЗЬДЗЕ АНТОНА АДАМОВІЧА

Я вельмі рад, што сяньня маю нагоду выказаць сваю думку пра навукова-культурна-літаратурна - грамадзкую й усякую іншую карысную дзейнасьць Антона Адамовіча, якую я асабіста вельмі высока цаню. У сваім дакладзе Юбіляр сказаў, што ён вельмі мала, бадайшто нічога карыснага не зрабіў да апошняга часу. І гэтае ягонае асьветчаньне — гэта ня ўгодкавы аўтакамплімэнт, а зусім шчырае прызнаньне, зробленае зь ягоных суб'ектыўных пазыцыяў. І гэта зразумела й анічуць ня дзіўна. Юбіляр усьведамляе, што ён зрабіў ня гэтулькі, колькі хацеў-бы, колькі сабе плянаваў, не бяручы ўвагі на тыя абмежаныя магчымасьці, у якіх давялося жыць і працаваць у няспрыяльных абставінах эміграцыйнага жыцьця.

Затое людзі староньнія, як у дадзеным выпадку й я асабіста, могуць лягчэй аб'ектыўна ацаніць усё ім зробленае й сьцьвердзіць, што ў цяжкіх эміграцыйных абставінах ён у максымальнай ступені патрапіў выкарыстаць свае магчымасьці, каб зрабіць узапраўды шмат у галіне роднае навукі й культуры.

У прывітаньні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва на ягонае 70-цігодзьдзе, надрукаваным у газэце „Беларус" за травень 1979 году, абазначаныя гэткія галіны дзейнасьці Антона Адамовіча: літаратуравед, гсторык, пісьменьнік, палітычны й грамадзка-культурны дзеяч.

Зусім правільна ў угодкавым прывітаньні БІНіМ-у на першым месцы адзначаная літаратураведная дзейнасьць Антона Адамовіча. Ён напісаў і надрукаваў вялікую колькасьць літаратураведных і літаратурна-крытычных працаў, пералічаць якія не хапіла-б тут і месца, але сярод іх, на маю думку, найбольш каштоўныя якраз літаратураведныя, а ня літаратурна-крытычныя працы. Не зважаючы на тое, што літаратураведная й літаратурна-крытычная дзейнасьць узаемна зазубляецца, часамі цяжка аддзяліць адну ад другой, тым ня менш, найбольш адпаведны для яго кірунак дзейнасьці, на маю думку, якраз як гісторыка літаратуры.

Калі я чытаю ягоную літаратураведную працу пра творчасьць Максіма Гарэцкага, што была надрукаваная ў 1928 годзе ў часапісе „Узвышша", мяне зьдзіўляе, што ейны аўтар, ня маючы тады яшчэ й 20 год жыцьця, гэтак глыбака й грунтоўна патрапіў ацаніць творчасьць Максіма Гарэцкага, інакш кажучы, выявіў ужо тады поўную літаратураведную дасьпеласьць. Праўда, у нас быў і Максім Багдановіч, які ў зусім маладых сваіх гадох патрапіў узьняцца да трапных літаратурных тэарэтычных сфармуляваньняў і абагульненьняў, пацьверджаных пазьней усім працэсам беларускага літаратурнага разьвіцьця. Але-ж гэткія фэнамэнальныя дасьледвальнікі, якім быў Максім Багдановіч, зьяўляюцца адзін раз на сто год. Прыклад Максіма Багдановіча анічуць не абніжае прыкладу з Антонам Адамовічам.

Вяртаючыся да згаданай Адамовічавай працы пра Максіма Гарэцкага, трэба ведаць і тое, што, як зазначыў і Антон Адамовіч, праца гэтая была зрыхтаваная шмат раней за ейнае надрукаваньне ў „Узвышшы" й тым самым сьветчыць пра яшчэ ранейшы літаратураведны талент Антона Адамовіча. На просьбу аўтара гэтых радкоў Антон Адамовіч удакладніў, што згаданая праца пра Максіма Гарэцкага была зрыхтаваная яшчэ ў 1927 годзе, калі ён меў усяго 18 год жыцьця.

На другім месцы ў угодкавым прывітаньні БІНіМ-у згадваецца пра Антона Адамовіча, як гісторыка. Мне здаецца, што ягоныя гістатычныя зацікаўленьні, хоць таксама цікавыя й важныя, усё-ж чыста выпадковыя. Спад ягонага пяра выйшлі дзьве большыя гістарычныя працы: „Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией" у 1954 і „Большевизм в революционном движении в Белоруссии" — у 1956 годзе. Няхай нікому ня будзе дзіўным, што абедзьве гэтыя працы былі напісаныя й выдадзеныя ў Мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР у расейскай, а ня беларускай ці ангельскай мове. Гэта быў час, калі намі, працаўнікамі гэтага Інстытуту, вялося змаганьне за выданьні Інстытуту й у беларускай ды ангельскай мовах, змаганьне, якое ўкаранавалася поўным посьпехам. Довадам гэтага былі далейшыя працы Антона Адамовіча, як „Якуб Колас у супраціве саветызацыі" ў 1955 годзе й „Апазыцыя саветызацыі беларускай літаратуры" ў 1958 г., першая ў беларускай, а другая ў ангельскай мове.

На трэйцім месцы ў угодкавым прывітаньні БІНіМ-у фігуруе Антон Адамовіч, як пісьменьнік. Калі ў 1955 г. мне давялося ў Мюнхэне камплектаваць для выданьня ў Выдавецтве „Бацькаўшчына" зборнік твораў мастацкай літаратуры на эміграцыі „Ля чужых берагоў", я выбраў для гэтага выданьня Адамовічава апавяданьне, падпісанае псэўдонімам Васіль Бірыч, „Афрадыта — Ост". Апавяданьне гэтае было, на маю думку, найлепшым, што зьявілася да гэтага часу ў жанры беларускай мастацкай прозы. Ад гэнага часу мінула сяньня цэлых 25 год. І калі-б і сяньня трэба было камплектаваць гэны зборнік, і таксама выбраў-бы для яго апавяданьне „Афрадыта — Ост", як найлепшае й сяньня з усяго таго, што зьявілася ў жанры апавяданьня. У 1948 годзе пад псэўдонімам С. Юстапчыка выйшла ў Мюнхэне сваяасаблівая Адамовічава аповесьць, як завязка раману, „Каханы горад".

Добра сабе прыгадваю, калі ў гэным часе аднойчы з ДП-лягеру ў Каме прыехаў да нас у ДП-лягер у Остэргофэне Аўген Каханоўскі, дык неяк жартам сказаў ён, што калі-б ад яго залежала, ён прысудзіў-бы аўтару „Каханага гораду" ўзнагароду Нобэля. Пэўне-ж, гэта было сказана жартам, тым ня менш, гэты сяброўскі жарт ня быў пазбаўлены лёгікі. Наагул, даводзіцца шкадаваць, што Антон Адамовіч пасьля пакінуў займацца мастацкай прозай. А чаму? — гэта ведама хіба толькі яму аднаму.

І апошняе абазначаньне дзейнасьці Антона Адамовіча ў угодкавым прывітаньні БІНіМ-у, як „палітычны й грамадзка-культурны дзеяч". Пад гэтым абазначаньнем пэўне-ж хаваецца й канкрэтна ягоная дзейнасьць у галіне культуры роднае мовы. Побач літаратураведнай, гэта, на маю думку, найважнейшая сфэра ягонае навуковае дзейнасьці, сфэра, у якой ён у вабставінах эміграцыі адыйграў ды й адыграе ролю запраўднага піянера, гэткага, якімі былі на бацькаўшчыне ў 20-ых гадох Кузьма Чорны й галоўна Ўладзімер Дубоўка, а пасьля асуджэньня г. зв. культу асобы Сталіна — Фёдар Янкоўскі й галоўна Янка Скрыган, што таксама пайшлі сьлядамі Ўладзімера Дубоўкі. Гэткім парадкам, Уладзімер Дубоўка меў годнага сябе вучня, а Антон Адамовіч — годнага сябе настаўніка.

У сваёй дзейнасьці ў галіне культуры мовы Адамовіч пасьлядоўна й упорыста тарнуе два важныя прынцыпы: паглыбленьне, калі гэтак выразіцца, беларускасьці беларускае мовы й ейнае дэрусыфікацыі, дакананае русыфікатарамі на бацькаўшчыне. Хоць біяграфія Антона Адамовіча ў васноўным гарадзкая, аднак назапасіў ён глыбокае веданьне беларускіх народных дыялектаў, якія ўдала ўжывае ў сваёй літаратурнай мове. З другога боку, ён пасьлядоўна пашырае тыя граматычныя формы й словы, якія адрозьніваюць беларускую ад расейскае мовы. Гэтая ягоная дзейнасьць мала прыкметная навонкі, але яна нязвычайна важная й карысная. Наагул можна сказаць, што асноўную базу для нашай літаратурнай мовы, якой мы карыстаемся на эміграцыі, стварыў Антон Адамовіч. Гэтая ягоная заслуга ня можа быць сяньня пераацэненая, яе пацьвердзіць напэўна й будучая нашая гісторыя.

Апошнім часам Антон Адамовіч працуе ў галіне рэдагаваньня зборнікаў твораў беларускай паэзіі на эміграцыі. Гэтак нядаўна пад ягонай рэдакцыяй і зь ягоным уводным артыкулам выйшаў вялікі зборнік паэзіі Натальлі Арсеньневай „Між берагамі". Цяпер-жа ён працуе над рэдагаваньнем гэткага зборніка паэзіі памерлага ўжо Алеся Салаўя. 27 травеня 1979 году ў Нью Ёрку адбыўся банкет і літаратурны вечар у гонар Натальлі Арсеньневай з нагоды 75-ых угодкаў жыцьця паэткі ды выхаду ў сьвет кнігі ейнае паэзіі „Між берагамі". Антон Адамовіч, аўтар біяграфічна-крытычнага нарысу да гэтае кнігі прывітаў паэтку ды пажадаў ёй, кажучы ягонымі словамі, „жыць а жыць далей творчым жыцьцём". Гэтымі ягонымі словамі дазволю, з нагоды ягонай сяньняшняй працы над зборнікам Алеся Салаўя, прывітаць яго самога: „жыць а жыць творчым жыцьцём" пасьля ягоных 70-ых угодкаў. Гэткае маё найшчырэйшае яму пажаданьне!

**Станіслаў Станкевіч**

## НАШ УДЗЕЛ У МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАЎЦЫ Ў ЧЫКАГА

Хоць з прыходам новага бурмістра Чыкага сп-ні Бэрн некаторыя зьмены тэхнічнага парадку заўважыліся на выстаўцы, аднак у існасьці сваёй выстаўка захавала той самы характар, што й папярэднімі гадамі.



Удзел этнічных групаў быў шматлікі — ажно 67 нацыянальнасьцяў, і выстаўка была адкрытая на працягу двух дзён — 3-га й 4-га лістапада 1979 г.

Нашае стоішча папоўнілася летась новымі экспанатамі ў форме прыгожых вышыванак, падушак, прыгожых колерамі й узорамі дзяружак, атракцыйных ляляк ды ручнікоў і некалькі пано, што прадстаўлялі тыпы беларускіх дзяўчат або сцэнак зь беларускага народнага жыцьця. Гэтыя апошнія былі ўзапраўды захапленьнем з боку наведвальнікаў. Міньятурныя калаўроткі рознага стылю прыкоўвалі ўвагу глядачоў.




**Агульны выгляд Беларускага Стоішча на Выстаўцы. Пры Стоішчы сп-ар і сп-ня Шусты зь Лёндану ў Канадзе. Фатаздымкі Нікадэма Жызьнеўскага**

Атракцыяй пры нашым стоішчы летась быў паказ тэхнікі інкрустацыі саломкай сп-ром Міколам Шустам з Канады, які із сваёй сям'ёй прыехаў на выстаўку. Прывёз ён таксама ладную колькасьць прадметаў інкруставаных саломкай у форме шкатулак, рамак, плякаў, столікаў ды годны подзіву з мастацкага пункту пляк з галавой лося. Ня дзіва, што публіка таўпілася ды акружала сп-ра Шуста ў часе паказу ягонага ўменьня ў інкрустацыйнай тэхніцы, дакладна выпытваючы яго пра дэталі.

На гэтым месцы трэба адцеміць, што дачка сп-ва Шустаў Барбара добра ўсвоіла ўменьне ў інкрустацыі й таксама спрытна й памайстроўску паказвала наведвальнікам сваю мастацкую здольнасьць.

Сярод экспанатаў, папярэдня ўжо згаданых, на спэцыяльную ўвагу заслугоўвала пано разьмерам 8 і 5 футаў, прысланае сп-вам Сурвіламі з Атавы (Канада). Характэрныя беларускія тыпы ў народных касьцюмах на сінім фоне пано былі прадметам асаблівага зацікаўленьня глядачоў і карысна сьветчылі пра мастацкі ўзровень.

Наагул-жа трэба зазначыць, што ў падборы й разьмяшчэньні экспанатаў на нашым стоішчы прасочвалася эстэтычная ўмеласьць і далікатны густ.

Адведваючы выстаўку, бурмістр Чыкага сп-ня Бэрн затрымалася й пры нашым стэньдзе, асабліва цікавячыся й распытваючы сп-ню Тарэсу Тарасэвіч аб тэхніцы, а таксама заінтэрэсавалася й тканьнем, якое выконвала сп-ня Кацярына Кайгатцу. Не засталіся й паза ўвагай сп-ні Бэрн экспанаты із саломкавай інкрустацыяй, зробленыя сп-ром Шустам, а асабліва верх століка. Пры гэтай нагодзе быў уручаны сп-ні Бэрн прыгожы пляк із саломкавай інкрустацыяй сп-ром Шустам.

З нагоды леташняй выстаўкі Гарадзкая Ўправа Чыкага выдала кулінарную кніжку аб этнічных емінах пад кіраўніцтвам сп-ні Бэрн, у якой між іншымі былі зьмешчаныя тры рэцэпты беларускай кухні. Беларуская кухня, зарганізаваная Беларускай Праваслаўнай Парахвіяй Сьвятога Юр'я ў Чыкага, цешылася кулінарным посьпехам на выстаўцы, сулячы свае спэцыялітэты: бульбяныя бліны, галубцы, капусту з каўбасой ды рознага роду смачныя сухарыкі.

Летась, на жаль, не ўдалося зарганізаваць ніякай вакальна-музычнай ці танцавальнай праграмы. Танцавальная група, якая раней актыўна ўдзельнічала ў розных імпрэзах, выйшла „із строю" з розных прычынаў, а новай не ўдалося зарганізаваць, не зважаючы на стараньні ініцыятаркі, што намагалася ўзбудзіць зацікаўленьне да беларускіх танцаў сярод нашага маладняка ў Чыкага. На жаль, стараньні гэтыя ня выклікалі адпаведнага рэха, — а гэта ужо мінус у нашай грамадзкай дзейнасьці.

Падсумоўваючы ўсе ўражаньні, трэба зацеміць, што нашае стоішча рэпрэзэнтавалася паважна й карысна, экспанаты былі характэрныя, удала падабраныя, густоўна разьмешчаныя й атракцыйныя для наведвальнікаў.

А за ўдалы посьпех у арганізаваньні стоішча належыцца падзяка сп-ву Беленісам, сп-ні Пануцэвіч, сп-ні Э. Жызьнеўскай, сп-ру Н. Жызьнеўскаму, адказнаму кіраўніку за беларускую выстаўку, сп-ру В. Пунтусу, сп-ву Рамуком ды за інфармаваньне наведвальнікаў пры стоішчы — сп-ні Г. Шуст, сп-ні Н. Градэ-Куліковіч і сп-ні М. Богдан.

**Д-р Вітаўт Рамук**

## ДРУГАЯ АДОЗВА

**Дарагія Суродзічы!**

Вы мелі нагоду чытаць у нашых беларускіх газэтах маю першую адозву да Вас. Водгукі гэткія: Сп. Сп. Э. Пілецкі прыслаў 20.00 ам. дал., Т. Супрун — 50 ам. дал., Я. Гавэнчык — 33.70 ам. дал.; **разам 103.70 ам. дал., што раўняецца 117.98 кан. дал.**

Шчыра дзякую Вам, Ахвярадаўцы. Я не падвяду Вас. Служэбнік выйдзе ў красавіку 1980 году напэўна, а магчыма крыху раней.

Просім Божую ласку на ўсіх Вас. 14 сьнежня 1979, Таронта, Канада.

**✠ Архіяпіскап Мікалай**

Rt. Rev. Bishop Mikalay
524 St. Clarens Avenue
Toronto, Ont. M6H 3W7
Canada

## "ДАЛОЎ РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ!"

Вечарам 7 лістапада ў Нью Ёрку перад будынкам місыі Савецкага Саюзу ў Задзіночаных Нацыях адбылася масавая дэманстрацыя-пратэст супраць гэнасыду й каляніzатарскай палітыкі, якую праводзіць імпэрыялістычная Масква ў дачыненьні да паняволеных ёю народаў. Савецкі Саюз зьяўляецца сяньня апошняй і самай жорсткай каляніяльнай дзяржавай, а таму дэманстрацыя праходзіла пад лёзунгам дэкалянізацыі маскоўскай імпэрыі.

У дэманстрацыі прыймала ўдзел беларуская група з адпаведнымі плякатамі: „Свабода Беларусі!" і „Далоў расейскі імпэрыялізм!" Праз рупары прамаўлялі прадстаўнікі паняволеных народаў. Ад Беларусаў, ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі прамаўляў сп. Кастусь Мерляк. Дэманстрацыю арганізавалі Амэрыканскія Прыяцелі Антыбальшавіцкага Блёку Народаў.

**М. С.**

## "БЕЛАРУС" — ЗАПРАЎДНЫ ГОЛАС ГРАМАДЗКАСЬЦІ. ДЫК І ГРАМАДЗКАСЬЦЬ ПАВІННА ДАЦЬ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ!

# УСЁ БЛІЖЭЙ ДА АЛІМПІЯДЫ 1980



**Нэлі Кім з трымя алімпійскімі залатымі мэдалямі з Монтрэалю**

Вяртаюся ўзноў да тэмы: Спорт. Шмат хто з чытачоў напэўна цікавіцца спортам наагул ды навінамі ў спартовым жыцьці ў прыватнасьці. А калі хто й ня цікавіцца, дык няхай выбачае, бо, як ні старайся, ніколі ўсім чытачом не дагодзіш.

Маё зацікаўленьне спортам зьявілася ў часе XX-ай Алімпіяды ў Мюнхэне й выступленьня там Вольгі Корбут. З таго часу й сачу за тэлевізыйнымі спартовымі праграмамі, пачала больш разумець, глыбей асэнсоўваць чутае й бачанае. I ў выніку — жыцьцё маё сваім зьместам сталася багацейшым.

Дык хачу тут падзяліцца апошнімі навінамі із спартовай дзейнасьці. Зусім нядаўна, бо ў сьнежні 1979 году, мела месца апошняе спаборніцтва ў сусьветным маштабе перад Алімпіядай, якое адбылося ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі ў Форт Вортс ў штаце Тэксас. У пляне былі гімнастычныя спаборніцтвы жанчынаў і мужчынаў 33-ох нацыяў перад аўдыторыяй каля дзесяцёх тысячаў глядачоў. Некаторыя выступленьні можна было бачыць 15 сьнежня 1979 г. на 7-ым канале тэлевізыйнае праграмы.

Цікава прайшла гэтая спартовая сустрэча. Спачатку пра жанчынаў: гімнастычныя выступленьні жанчынаў у васноўным былі змаганьнем паміж савецкай і румынскай камандамі. Сустрэча гэтая застанецца памятнай некаторым жанчынам надоўга, бо перажылі яны шэраг сур'ёзных няўдачаў. Першай трагэдыяй быў выхад із складу румынскай каманды Надзі Каманэчы (яна ў міжчасе перамагла часовую страту вядучага месца ў гімнастыцы й вярнулася ў строй з дэтэрмінацыяй заняць узноў першае месца). Першага дня спаборніцтваў пачалася ў Надзі Каманэчы інфэкцыя на руцэ, доктарская дапамога не затрымала яе, а на другі дзень спаборніцтваў яна ўсё-ж пры вялікім болі прыняла ўдзел у вадным відзе спорту — на бервяне. Перамагаючы вялікі боль сілай волі, патрапіла здабыць ацэнку 9.95. А на наступны дзень яна выбыла з каманды. Але нешчасьлівыя выпадкі зь гімнасткамі паўтараліся, як быццам нейкі зарок завіс у паветры (але хто сяньня верыць у зарокі, апрача Беларусаў?), дык прычына застаецца бяз высьвятленьня. Гэтак здарылася, што адна за аднэй па чарзе тры савецкія гімнасткі сарваліся ў часе практыкаваньняў на паралельных штангах і зваліліся на памост. I хоць яны пазьней і працягвалі выступленьні ў іншых відах спорту, выступленьні іхныя былі бязколернымі, бо яны выэліміноўвалі больш складаныя прыёмы, каб ня згубіць раўнавагі й ня ўпасьці на памост.

Бязумоўна скарысталі з гэтага Румынкі й захапілі некалькі залатых мэдаляў, у выніку чаго румынская каманда здабыла залаты мэдаль. Гэта здарылася толькі другі раз у гісторыі спорту, што савецкая каманда не асягнула першага месца. А па нейкім часе ўзноў паўтарыўся злосны жарт кону: падчас спаборніцтва на бервяне ўзноў тры гімнасткі, гэтым разам Амэрыканкі ў часе практыкаваньняў зваліліся зь бервяна. Гэта каштавала зборнай камаьдзе жанчынаў пасунуцца з чацьвертага месца ў вагульных выніках на шостае.

Але няма гора без дабра, было й дабро, прыкладам, для гімнасткі Нэлі Кім. Нэлі Кім — Мянчанка, як яе часта называе савецкая прэса (22 гады векам). Яна атрымала залаты мэдаль у індывідуальных спаборніцтвах за ўсе віды спорту — гэта значыць, сталася першай у сьвеце гімнасткай. Другое месца атрымала Румынка Мэліта Ран. Нэлі Кім выратавала часткава гэткім парадкам гонар савецкае гімнастычнае каманды. Ейнае выступленьне на памосьце было найлепшым з усіх: гарманійнае спалучэньне танцу з акрабатыкай, прыроджаная элегантнасьць рухаў, але й задорная гарэзьлівасьць здабылі ёй ня толькі залаты мэдаль, але й зачаравалі, захапілі аўдыторыю, што дзякавала ёй за выступленьне даўгімі бурнымі воплескамі.

Пры нагодзе некалькі вестак пра Нэлі Кім (весткі ўзятыя з гутаркі-дыялёгу, які правёў журналісты Язэп Калюта ў Менску з алімпійскай чэмпіёнкай улетку 1979 г.). На пытаньне: „Прывыклі ўжо, што вас называюць Мянчанкай?", — быў адказ: „Прывыкаю . . . Два гады — тэрмін невялікі. Усё-ж дваццаць гадоў пражыла я ў Казахстане. Тут у Менску шмат што для мяне новае — горад мае свой рытм жыцьця, свае традыцыі. Я рада, што Мянчане прынялі мяне ў сваю сям'ю". Далей яна прызналася: „Іншы раз сумую па Чынкеньце, дзе жывуць мае бацькі". Муж Нэлі — Уладзімер Ачасаў, таксама спартсмэн, майстар спорту міжнароднай клясы. Часам яны выступаюць зь гімнастычнымі паказамі разам. На заўвагу журналістага: „У вас гімнастычны дуэт, але ў ім траіх", Нэлі адказала: „Так, траіх. У мяне й у Валодзі адзін трэнэр — заслужаны майстар спорту Мікалай Мілігула. Ён першы беларускі гімнаст-алімпіец. Што-ж яшчэ сказаць пра яго? Найбольш мяне кранае ягоная мэтаськіраванасьць і сумленнасьць". I далей: „Сяньня, каб перамагаць у гімнастыцы, трэба зьдзіўляць. Вольга Корбут заўсёды гэтым вызначалася й была на гімнастычным балі каралевай . . . А гімнастыку я палюбіла ня толькі за ейную гарэзьлівасьць, але яшчэ й за тое, што гімнастыка зь ейным войстрым змаганьнем, зь ейным сцэнічным характвом дапамагае мне адчуваць сябе шчасьлівай".

Вельмі прыемна, што найлепшая гімнастка сьвету жыве ў Менску ў васяродзьдзі Беларусаў.

З посьпехам для амэрыканскіх гімнастыкаў прайшлі мужчынскія спаборніцтвы ў Тэксасе. Першы раз у гісторыі сьвету Амэрыканец Курт Томас заняў другое месца ў індывідуальных спаборніцтвах і стаўся другім у сьвеце найлепшым спартсмэнам, атрымаўшы сярэбраны мэдаль. Першае месца заняў савецкі гімнастык Аляксандар Дзіцяцін, розьніца ў балах між імі была толькі ў 0.275 частках аднаго пункту ў карысьць А. Дзіцяціна.

Аднак найбольшым сукцэсам было, што, таксама першы раз у гісторыі спорту, амэрыканская каманда заняла трэйцяе месца ў сьвеце, атрымаўшы бронзавы мэдаль. У параўнаньні зь мінулым, калі на сусьветным спаборніцтве на Алімпіядзе ў Монтрэалі Амэрыканцы атрымалі адзін індывідуальны мэдаль у вадным відзе спорту, гэта прагрэс надзвычайна вялікі. Шлях да далейшых сукцэсаў на Алімпіядзе 1980 стаўся шырака адкрытым для амэрыканскіх спартсмэнаў.

Уся Амэрыка цешыцца з посьпеху амэрыканскіх гімнастыкаў. Зразумела, і мы Беларусы, амэрыканскія грамадзяне, цешымся таксама.

**Зінаіда Станкевіч**

# ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ У ТАРОНЬЦЕ

2-га сьнежня летась у царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Тароньце пасьля Сьв. Літургіі адбылася Паніхіда па гэроях Слуцкага Збройнага Чыну й усіх беларускіх гэроях, што палеглі ў змаганьні за волю Бацькаўшчыны.

Урачыстую акадэмію адчыніла ў перапоўненай царкоўнай залі сакратар Галоўнае Ўправы Згуртаваньня Беларусаў Канады д-р Раіса Жук-Грышкевіч. З дастойных гасьцей былі прысутнымі Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай, а. Максім і старшыня Рады БНР д-р В. Жук-Грышкевіч.

Сп. К. Акула прачытаў сымбалічны сьпіс гэрояў, пасьля чаго прысутныя прапялі хорам „Сьпі пад курганам гэрояў". Пра значаньне Дня Гэрояў гаварыў сп. М. Ганько, які ў канцы спыніўся на беларускіх іншадумцах на Бацькаўшчыне, асабліва на найбольш ведамым зь іх Міхалу Кукабаку, і заклікаў суродзічаў памагаць нашым братом дома, што й сяньня ня спыняюць змаганьня за волю.

Старшыня Рады БНР заклікаў да масавага ўздыму й ахвярнасьці. „Шчасьлівая нашая сытуацыя на эміграцыі накладае на нас абавязкі, — казаў ён. Мы павінны дбаць пра нашую нацыянальную сьведамасьць, пра нашую гісторыю й культуру, пра нашых дзяцей, пра нашае адзінства. Мы павінны годна рэпрэзэнтаваць Беларусь. Гэтым найлепш ушануем памяць нашых гэрояў. Беларуская вызвольная справа чыстая, як сьляза, ня толькі людзкая, але й боская".

Акадэмія была закончаная прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну. На часапіс „Зважай" прысутныя на акадэміі ахвяравалі 60 даляраў.

**К. Акула**

# ПРЫВІТАНЬНЕ

Шчыра вітаем з 30-мі ўгодкамі Беларускія Перадачы ў Ватыканскім Радыі й жадаем далейшае плённае дзейнасьці Богу на Славу й карысьць Беларускага Народу!

**Рэдакцыя газэты „Беларус"**

# СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ Ў РЫЧМОНД ГІЛ

У нядзелю 18 лістапада 1979 году Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Аддзел Нью Ёрк, ладзіла сьвяткаваньне 59-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Сьвяткаваньне адбылося на 104-29 Атлянтык авэню, Рычманд Гіл, у Нью Ёрку.

А 10-ай гадзіне раніцы была адпраўленая Божая Служба ў мясцовай царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, якую адслужыў а. Пётра Саўчыц. Пасьля была адслужаная Паніхіда па палеглых беларускіх змагарох. У часе Паніхіды вэтэраны трымалі ганаровую варту із сьцягамі.

Паўднём таго-ж дня ў залі Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная Слуцкаму Паўстаньню. Пачалася ўрачыстасьць амэрыканскім гімнам. Старшыня Аддзелу Вэтэранаў кап. А. Горбат адчыніў акадэмію ды прывітаў прысутных. Уступнае слова меў сп. В. Шчэцька. Ён заклікаў прысутных працягваць змаганьне, пачатае слуцкімі паўстанцамі, ды папрасіў мінутай цішыні ўшанаваць памяць беларускіх гerояў.

Прынагодны рэфэрат прачытаў сп. К. Мерляк. Ён падсумаваў галоўныя падзеі ад 1917 да 1921 гадоў, што прывялі да Слуцкага Паўстаньня й змаганьня за БНР. Далей дакладчык прачытаў урыўкі пра тое, што пішуць сяньняшнія савецкія гісторыкі аб Слуцкім Паўстаньні. Наапошку ён параўняў сяньняшнюю ваенную моц Амэрыкі й Савецкага Саюзу згодна камэнтароў прэсы. Беларускім нацыянальным гімнам закончылася афіцыйная праграма акадэміі.

Супольнай малітвай пачаўся прынагодны абед. На ім далей выступалі прамоўцы на тэму ўгодкаў. Між іншымі прамовіў і рэдактар газэты „Беларус" д-р Ст. Станкевіч. Ён падчыркнуў два аспэкты Слуцкага Паўстаньня. Адным зь іх тое, што Слуцкае Паўстаньне было адзіным між іншымі паўстаньнямі таго часу, якое ставіла сваёй мэтаю абарону Беларускае Народнае Рэспублікі. Другім аспэктам быў лёзунг: „Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына", як выражэньне высокага патрыятызму. Слуцкія паўстанцы пайшлі змагацца не за тое, каб жыць, але памерці, каб жыла Бацькаўшчына, бо-ж сілы былі няроўныя. Гэта ставіць слуцкіх паўстанцаў як трыбунаў ідэі незалежнасьці Беларусі.

Абед прайшоў у прыемнай атмасфэры й сяброўскіх гутарках. Належыцца вялікае дзякуй нашым жанчынам за ўмелае падрыхтаваньне пачастунку.

**В. Шчэцька**

# СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 2 сьнежня 1979 году Акруговая Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку ладзіла сьвяткаваньне 59-ых угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля Паніхіды па загінулых гэроях у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага, адпраўленай а. Р. Войтанкам, у залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўгодкавая акадэмія, якую адчыніў старшыня Ўправы Акруговага Аддзелу БАЗА Мікола Кунцэвіч. Ушаноўваючы памяць слуцкіх змагароў, прысутныя ўсталі на хвіліну, а тады прапялі „Ойча Наш". Хор пад кіраўніцтвам сп. Б. Данілюка выканаў хаўтурны марш „Сьпеце ўсе тыя . . .".

У сваім дакладзе падчас акадэміі сп. М. Кунцэвіч успомніў 14 пунктаў Прэзыдэнта Вільсана й Парыскую Канфэрэнцыю 1919 году пасьля заканчэньня Першай сусьветнай вайны й дагавору акупантаў аб заняцьці й падзеле тэрыторыі Беларусі ў 1919-20 гадох, што прывяло да змаганьня Случчыны з бальшавікамі за вольную й незалежную Беларусь. Зрабіўшы дыгрэсыю ў XVI стагодзьдзе, дакладчык прачытаў колькі дакумэнтаў аб змаганьні Вялікага Княства Літоўскага з Масквой за Смаленшчыну. Дакладчык зазначыў, што ўжо ад часоў Кіеўскага, Уладзімерскага й Маскоўскага княства, а пасьля маскоўскага царства наш усходні сусед стараўся паняволіць і заняць землі Беларусі, што наапошку было зроблена Кацярынай II-ой у 1772 годзе.

Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**М. К.**

# ПАМЯЦІ СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ У МЭЛЬБУРНЕ

У нядзелю 2 сьнежня 1979 г. у залі Беларускага Дому ў Мэльбурне (Аўстралія) адбылася ўрачыстасьць, прысьвечаная 59-ым угодкам Слуцкага Паўстаньня. Урачыстасьць адчыніла старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп-ня Э. Яцкевіч.

Адзначыўшы важнасьць Слуцкага Паўстаньня, яна зьвярнула ўвагу на шматлікія збройныя ўзрывы, якія былі перад і пасьля Слуцкага Паўстаньня, ды запрапанавала ўшанаваць хвілінай цішыні ўсіх тых, якія паміралі, каб жыла Бацькаўшчына-Беларусь. Сп-ня Э. Яцкевіч прачытала шматлікія прывітаньні, якія атрымаў Цэнтральны Камітэт ад арганізацыяў з Аўстраліі ды зь іншых краінаў сьвету.

Цікавы й зьмястоўны даклад на тэму дня прачытаў у беларускай і ангельскай мовах сп. М. Шэка.

У мастацкай частцы мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп-ні Э. Яцкевіч прапяяў наступныя песьні: „Сьпі пад курганам гэрояў", „Марш Беларускіх Партызанаў", „Ах ты, Нёман-рака" і „Зорка Вэнэра". Беларускі Жаноцкі Ансамбль прапяяў: „Слуцкія ткачыхі", а сп-ня Вера Багдановіч, нашая ведамая салістка, прапяяла „Залатыя сьпевы". Як звычайна, было некалькі ўдалых дэклямацыяў Аўгена й Пятруся Грушаў.

Урачыстасьць закончылася прапяяньнем усімі прысутнымі нашага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасьля афіцыйнай урачыстасьці адбыўся як заўсёды, вельмі ўдалы сяброўскі вечар, які зацягнуўся да позьняга часу.

**А. К-а**

# СЬВЯТКУЕ ЎГОДКІ, ШТО ЯШЧЭ НЯ СПОЎНІЛІСЯ

Хмарава газэта „Беларускі Голас", як ведама, паўстала ў 1952 годзе, калі выкінулі яго зь Беларускага Выдавецкага Фонду, які Згуртаваньне Беларусаў Канады было стварыла для выдаваньня месячнае газэты „Беларускі Эмігрант", што выходзіў на працягу шасьцёх гадоў — ад лютага 1947 да лета 1954 году. Нейкім чынам гады свайго нованароджанага дзецішча, якое Хмара ахрысьціў „Беларускім Голасам", пачаў лічыць не ад нуля, але ад чатырох. Такім чынам, паверце, людзі добрыя, ужо й сьвяткуе трыццаць гадоў, калі вульгарнаму гадунцу адно толькі дваццаць сем.

Калісьці, у 1950 годзе, казаў мне Хмара, што ён у польскай вязьніцы скончыў „камуністычны інстытут журналістыкі". Відаць, што й сяньня выпускнік гэнага „камуністычнага інстытуту журналістыкі" трымаецца ўсвоеных у гэным інстытуце ведаў і навыкаў .Гэтак, пры помачы Паляка Маркевіча, што выдае ў Тароньце польскую газэту „Кур'ер Польско-Канадыйскі", залажыў ён, для падрыву даўно йснуючай тут прэсавай арганізацыі Канадыйскі Этнічны Прэсавы Клюб, свой баявы хаўрус канадыйскіх журналістых. Можа што й ускалосіцца ці адкуль-небудзь капне.

Летась ,пасьля паездкі нашага Архіяпіскапа Мікалая ў Аўстралію, калі ў хмараўскім „голасе" зьявілася зьняважлівая справаздача ад нейкага там ускалосаўца, давялося чуць блізкія й далёкія галасы: „Чаму вы там на месцы ня рэагуеце й маўчыцё пра гэтага нягодніка"?

Адказ просты: у Тароньце гэтага „нягодніка" ніхто ня слухае, яго, ведаючы тут, як аблупленага, чытаюць лічаныя на пальцах адзінкі. А што дзесь у якім далёкім захалусьці хтось топчыцца ў ягонай калатушы, што зробіш . . . Ня ўсіх-жа Бог розумам абдарыў.

А тымчасам гадунец „камуністычнага інстытуту журналістыкі" авансуе. Для важнасьці й аўтарытэту навет тры гады зь іншай газэты сьцягнуў, каб „юбілей" адсьвяткаваць.

**К. Акула**

# ПАДЗЯКА

Сябра Парахвіі Сьвятога Юр'я ў Чыкага Пётра Шацкі падараваў сваю собскую бібліятэку ў ліку 116 назоваў кнігаў (больш за 200 тамоў) клясыкаў сусьветнай літаратуры і іншых для царквы.

Кнігі былі перададзеныя на рукі М. Латушкіна ў прысутнасьці парахвіянаў Сьцяпана Шэўчыка й Косьці Пупа. Шчырая падзяка ахвярадаўцу. Цяпер кнігамі карыстаюцца парахвіяне, якія таксама шчыра дзякуюць Пятру Шацкаму за такі каштоўны ўклад у ейную скарбніцу ды жадаюць ахвярадаўцу здароўя й шчасьця на ягоным, Богам назначаным, зямным шляху.

**Мікола Латушкін**

